# Завочнікі аб завочным навучаньні

## Увязаць тэорыю з практыкай

З мэтай абмену вопытам з другімі завочнікамі паведамляю наступнае аб сваёй вучобе. Завочнікам зьяўляюся з студзеня м-ца г.г. Прапрацавана мною за гэты час 5 заданьняў.

Па вышэйшай матэматыцы 3, 1 па батаніцы і 1 па палітэканоміі. Прапрацаваў-бы і больш, калі-б завочны сэктар не затрымліваў высылкі заданьняў і не тармазіў гэтым самым рэгулярны ход работы. Прапрацоўваю заданьні самастойна, індывідуальна і рэдка зварочваюся за дапамогаю да больш ведаючых таварышоў.

Прапрацоўка працякае плянава і праводзіцца наступным чынам: кожнае заданьне, пасьля атрыманьня, я занашу ў сшытак, які мае наступныя графы:

| Назва прадмету (заданьня) | Час атрыманьня | Час, вызначаны на прапрацоўку | Тэрмін сканчэньня прапрацоўкі | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Графа „заўвагі" для таго, каб адзначыць нескарыстаны для вучобы час у выпадку: суботнікаў, дакладаў, сходаў цэхавых, агульна-фабрычных, ударніцкіх, рацыяналізатарскіх і г. д.

Гэты нескарыстаны рабочы час я імкнуся наварстаць у нерабочы дзень, калі працую ў сярэднім (у залежнасьці ад нескарыстанага часу, вызначанага па пляну) замест 3-х — 6 гадзін.

Працую звычайна вечарам, бо гэты час зьяўляецца найбольш падыходзячым у тым сэнсе, што ў гэты час я вольны. Лічу, аднак, што лепш за ўсё працаваць ранкам з сьвежай галавой. (У час чарговага адпачынку так і думаю працаваць). Час, затрачваемы на прапрацоўку заданьняў не зьяўляецца аднолькавым, бо заданьне заданьню розьнь. Так, напрыклад, матэматыка мне цяжэй даецца, што зьвязана са слабай маёй падрыхтоўкай па матэматыцы, палітэканомія — лягчэй, а батаніку я прачытваю адзін толькі раз. У сувязі з гэтым, я часта ўношу зьмены ў каляндарны плян заняткаў, павялічваю колькасьць гадзін на матэматыку за кошт батанікі і нават палітэканоміі. Праўда па палітэканоміі і батаніцы я раблю выпіскі, якія прадоўжваюць той скарочаны час, у які можна было-б улажыцца.

Трэба прызнацца, што першыя заданьні мяне ня зусім здавальняюць у тым сэнсе, што не даюць мажлівасьці ўвязаць тэорыю з практыкай. Прыкладна: у летні час, пажадана было-б атрымаць заданьні, зьвязаныя з сельскай гаспадаркай, але-ж гэтага ня было зроблена.

Я ў сябе адгарадзіў невялічкі вучастак зямлі для сельскагаспадарчых мэт, але-ж з-за адсутнасьці неабходнага вучэбнага матар'ялу (заданьняў) мне даводзіцца іншы раз дзейнічаць у цёмную; частыя выхады ў саўгасы і калгасы таксама застаюцца няўвязанымі з тэарытычнай вучобай. Значную дапамогу ў гэтым сэнсе маглі-б аказаць радыё, на жаль, я ня маю мажлівасьці, у сучасны момант, карыстацца радыёпрыёмнікам.

Ня гледзячы на ўсё гэта, заданьні я прапрацоўваю з вялікай зацікаўленасьцю і, мне здаецца, добраякасна.

Перад тым, як пасьлаць у завочны сэктар прапрацаванае заданьне ў пісьмовай форме, я даю вусныя адказы на запытаньні для самаправеркі, пасьля фармулюю іх пісьмова, некарыстаючыся кнігай.

Асаблівых цяжкасьцяй у працэсе працы не сустракаў і пры сільным жаданьні і настойлівасьці спадзяюся скончыць завочны інстытут.

Хаця з боку завочнага сэктару і былі непаладкі: затрымка высылкі заданьняў, часам дрэнны шрыфт заданьняў і г. д., аднак, разам з гэтым назіраецца і вялікая чуласьць—своячасовыя і падрабязныя адказы на запытаньні, неаднаразовыя напамінкі аб аплаце лістоў 5 кап. маркамі замест 15 кап. і г. д.

У мяне выклікае сумненьне адзін падручнік, гэта падручнік па палітэканоміі Лапідуса і Астравіцянава, які, па думцы некаторых, ідэалёгічна ня вытраманы. Стаўлю гэтае пытаньне на абгаварэньне завочкікаў і дырэкцыі інстытуту.

У далейшым мае пажаданьні: актыўным удзелам завочнікаў, мэтадамі сацспаборніцтва і ўдарніцтва, шырокім удзелам у друку (з мэтай абмену вопытам) — высьвятліць і ліквідаваць маючыяся недахопы (адзначаючы адначасова і дасягненьні) і пайсьці больш шпаркімі тэмпамі па шляху завочнай падрыхтоўкі сельскагаспадарчых кадраў.

Старшы рабочы-ўдарнік швэйнай фабрыкі „Камінтэрн" у Гомелі, студэнт-завочнік інстытуту кармовых культур і аграхэміі. **М. Н. Вараб'ёў.**

# Ад навучальнай часткі рэспубліканскага інстытуту завочнага навучаньня

*(Заўвагі да ліста т. Вараб'ёва)*

За 5, прыблізна, месяцаў тав. Вараб'ёў прапрацаваў 5 заданьняў. Колькасьць ня надта вялікая, аднак у параўнаньні з іншымі студэнтамі-завочнікамі т. Вараб'ёў знаходзіцца ў першых радох. Праўда, ёсьць завочнікі, якія за гэты час прапрацавалі поўнасьцю такія дысцыпліны як вышэйшая матэматыка, палітэканомія, батаніка, дыялектычны матэрыялізм і інш., але-ж, разам з гэтым, ёсьць і такія, якія прапрацавалі толькі па 1—2 заданьні.

Трэба адкрыта сказаць, што прапрацаваць 1—2 заданьні (менш як па аднэй староньцы ў дзень!)—зусім мала. І, як відаць, асноўная прычына гэтаму—няўменьне, альбо хутчэй за ўсё нежаданьне, працаваць па пляну. Між тым плянаваньне часу і рацыянальнае яго скарыстаньне зьяўляецца неабходнейшай умовай пасьпяховай вучобы кожнага студэнта. Гэта зазначаюць усе завочнікі, якія плянуюць свой час, зазначаюць не на словах, а на справе—колькасьцю прапрацаваных заданьняў. Характэрна адзначыць, што тыя завочнікі, якія адзначылі як адну з прычын слабай працы—недахоп часу для заняткаў—знайшлі яго, калі пачалі ўлічваць свой час і рацыянальна яго скарыстоўваць.

Тав. Вараб'ёў працуе па пляну і таксама мае добрыя вынікі. Трэба пажадаць, каб усе завочнікі скарысталі вопыт тав. Вараб'ёва. (У прыведзенай форме варта перад графой „заўвагі" дадаць графу „вытрачана часу ў гадзінах, на прапрацоўку заданьня").

Надзвычайна правільная ў лісьце тав. Вараб'ёва заўвага адносна няўвязкі тэарытычнага навучаньня з працай завочніка на вытворчасьці. Гэты прарыў з боку завочных сэктароў трэба як найхутчэй ліквідаваць. Па-першае, патрэбна прапрацоўку паасобных дысцыплін прыстасаваць да сэзонаў году (а значыць і да працы завочніка на вытворчасьці), а па-другое, падручнікі, праграмы, мэтад распрацоўкі поўнасьцю прыстасаваць да канкрэтных умоў працы завочніка. Патрэбен індывідуальны падыход да кожнага завочніка.

Заўвагі з боку завочнікаў адносна падручнікаў зьяўляюцца надзвычайна карыснымі. Трэба, аднак, сказаць, што памылкі, якія сустракаюцца ў некаторых падручніках (якімі ўсё-ж такі даводзіцца карыстацца за адсутнасьцю лепшых) заўсёды адзначаюцца і выпраўляюцца завочным сэктарам у дадатак да гэтых падручнікаў. У прыватнасьці па палітэканоміі завочныя сэктары не абмяжоўваюцца толькі падручнікам Лапідуса і Астравіцянава, а скарыстоўваюць (па некаторых разьдзелах) заданьня інстытуту завочнага навучаньня ЦК КП(б)Б.

У лісьце т. Вараб'ёва некаторыя важныя пытаньні як кансультацыйныя пункты, брыгадная праца і г. д., засталіся не закранутымі, а некаторыя асьветлены недастаткова. Незразумела, напрыклад, чаму т. Вараб'ёў не карыстаецца дапамогай таварышоў, якія больш яго ведаюць.

Рэспубліканскі інстытут спадзяецца, што ўсе завочнікі прымуць актыўны ўдзел у асьвятленьні і абгаварэньні пытаньняў завочнага навучаньня.

Артыкулы т. Паляковай (гл. № 10 „Ш. К.") і тав. Вараб'ёва зьяўляюцца першымі ў гэтым напрамку.

Раім усім завочнікам пазнаёміцца з артыкуламі па завочнаму навучаньню, якія зьмешчаны ў №№ 2, 3, 4, 6, 7, 8, 9, 10 і інш. часопісі „Ш. К." за 1932 г.

**В. К.**

*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

15 ЖНІВЕНЬ 1932

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ і КАЛГАСЦЭНТРУ БССР



ЗЬМЕСТ



## Убраць ураджай бяз страт і ў вызначаны тэрмін

## УБОРАЧНАЙ—УДАРНЫЯ ТЭМПЫ!

Пытаньне добрай ўборкі ўраджаю і правядзеньне ўборачных работ бальшавіцкімі тэмпамі—баявая, адказьнейшая задача сёнешняга дня. Ня толькі сілы і сродкі саўгасаў і калгасаў павінны быць ў баявой гатоўнасьці, а і грамадзкая думка ўсяе краіны не на мінуту ня можа адрываць сваю ўвагу ад гэтай надзвычайна важнай гаспадарча-палітычнай кампаніі, якая будзе замыкаючым зьвяном у агульным ланцугу бальшавіцкай барацьбы за замацаваньне посьпехаў веснавой сяўбы, за высокі ўраджай. Ня можа быць месца розным апартуністычным разважаньням, што ўсё ўладзіцца само сабой, што ці варта асабліва турбавацца, ды інш.

Посьпехі ў правядзеньні веснавой пасеўкампаніі і вопыт мінулага году патрабуюць каленым жалезам зьнішчаць гэтыя, яўна апартуністычныя меркаваньні, стаўку на самацёк і г. д. У мінулы год мы ня былі пазбаўлены зьявішчаў, пры якіх у некаторых калгасах і саўгасах заставаліся дзесяткі га няўбранай сенажаці, нявыбранай бульбы і інш, што гэтыя недапушчальныя факты былі выключна вынікам апартуністычнай практыкі, яўнай недаацэнкі значэньня ўборачнай кампаніі, арганізаванага правядзеньня яе ў калгасах і саўгасах.

Саўнарком Саюзу і ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове пра ўборачную кампанію 1932 году наступным парадкам акрэсьлілі недахопы мінулых уборачных кампаній, якія не павінны мець месца зараз: **„У надыходзячую ўборачную кампанію неабходна сканцэнтраваць усе сілы на зьнішчэньне карэнных недахопаў мінулых уборачных кампаній, а менавіта: вялікіх страт збожжа, цукровых буракоў і інш. тэхнічных культур, зацягваньне ўборкі, дрэннай арганізаванасьці трактарнага і конскага парку, нездавальняючай арганізацыі працы, ужываньне так званага „канвэернага“ мэтаду ўборкі і адмаўленьне ад скірдаваньня ўсяго скошанага хлеба“.**

Уборка гэтага году набывае куды большае народна-гаспадарчае значэньне ў параўнаньні з мінулым годам. Гэта абумоўліваецца тым становішчам, што пасеў сацыялістычнага сэктару па саюзу дасягнуў $^4/_5$ усяе пасеўнай плошчы, а ў нас па Беларусі ён складае больш 60 проц. усяе пасеўнае плошчы рэспублікі. Заданьне сваячасова і з мінімальнымі стратамі ўбраць 1.200 тыс. га азімых, 1.194 тыс. **га** яравых збожжавых культур, 600 тыс. **га** бульбы, 2.305 тыс. **га** сенажацяй, з якіх 425 тыс. **га** другога ўкосу, 72.000 **га** гародніны, 269 тыс. **га** ільну і 24.000 **га** кораньплодаў,—задача вялізарнейшага значэньня, якая можа быць вырашана пры выключнай увазе, баявой працы, адпаведнай расстаноўцы сіл, дэтальнай распрацоўцы ўсяе праграмы ўборкі.

Кіруючыя раённыя арганізацыі, сельсаветы, кожны саўгас і калгас павінны мець распрацаваныя апэрацыйныя пляны ўборачных работ. 57 машына-трактарных станцый павінны зьявіцца сапраўднымі баявымі штабамі, арганізатарамі правядзеньня ўборкі на тэрыторыі сваёй дзейнасьці. Выключную ўвагу набывае момант кантролю, апэрацыйнага кіраўніцтва, арганізацыі ўзаемадапамогі

між калгасамі (максымальная нагрузка машын і інвэнтару, рацыянальнае іх выкарыстаньне, выкарыстаньне ўсяе людзкой сілы і цягавай—трактары, коні).

Тав. Рачыцкі ў сваім выступленьні на III сэсіі ЦВК БССР сказаў, што уборка азімых павінна будзе працягвацца ня больш 10 дзён; уборка яравых збожжавых культур павінна быць скончана да 15 верасьня; 100 проц. пасеваў бульбы трэба ўбраць да 30 кастрычніка, з гэтай колькасьці 70 проц. да 10 кастрычніка. Гэтыя тэрміны зусім дастатковыя, каб па-бальшавіцкі, разгарнуўшы работу, сваячасова яе закончыць.



Снапавязалкі за ўборкай ураджаю (саўгас „Рапцы", Аршанскага раёну.

Рашаючае значэньне ў ходзе работ набывае пытаньне правільнай арганізацыі працы. **„Арганізацыя працы ў калгасах павінна забясьпечыць яшчэ ў большай меры, чым гэта мела месца, непасрэдную зацікаўленасьць як кожнай брыгады, так і асобных калгасьнікаў у выніку сваёй работы. У адпаведнасьці з гэтым павінна быць забясьпечана ўсюды правядзеньне ва ўсіх калгасах брыгадных (групавых) мэтадаў зьдзельшчыны, з тым, каб у залежнасьці ад якасьці работы брыгады (памеры страт, тэрміны ўборкі, абмалоту і вывазу хлеба і тэхнічных культур), ацэнка каштоўнасьці працадня (альбо колькасьці выпрацаваных працадзён) для брыгады і брыгадзіра павышалася альбо паніжалася праўленьнем калгасу ў межах ад 10 да 20 проц".** Як вынікае з пастановы ўраду, брыгадны мэтад працы, правільнае ўжываньне і правядзеньне яго—важнейшая ўмова ў посьпехах уборкі.

Дырэктыва партыі і ўраду аб выдачы калгасьнікам натуральнай і грашовай часткі прыбыткаў, выдачы авансаў, зьнішчэньне фактаў мінулага году, калі ў шэрагу раёнаў затрымлівалася выдача грашовай часткі прыбыткаў,—на мясцох павінна быць поўнасьцю рэалізаванай. Правільнае ажыцьцяўленьне гэтых важнейшых дырэктыў зможа і дасьць той творчы энтузіязм і самаадданасьць мільёнаў калгасных мас, які будзе вернай парукай у посьпехах уборкі.

Уборачная кампанія мае выключнае гаспадарча-палітычнае значэньне. Правядзеньне яе будзе зьвязана з шэрагам цяжкасьцяй. Гэта патрабуе далейшага і значнага узмацненьня ўвагі кожнай партыйнай арганізацыі да работы ў вёсцы, сапраўднага, глыбокага веданьня кожнага ў паасобку калгасу, аказаньня практычнай дапамогі калгасам у барацьбе з безгаспадарчасьцю і стратамі, правільным правядзеньні загатоўчай кампаніі і на гэтай аснове выяўленьня канкрэтных ворагаў калгасу, якія прабуюць падарваць калгасную вытворчасьць зьне і з сярэдзіны калгасу.

Галоўнай задачай партыйных і савецкіх арганізацый, саўгасаў, МТС, калгасаў і аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у правядзеньні **ўборачнай кампаніі зьяўляецца барацьба са стратамі ў правядзеньні ўборкі.** Трэба арганізаваць работу, каб правесьці ўборку ў найбольш кароткія тэрміны, сканцэнтраваўшы асаблівую ўвагу па ўборцы больш працаёмкіх рашаючых культур (лён, каноплі, бульба, гародніна).

Такія мерапрыемствы як устаноўка пры ўсіх уборачных машынах збожжаўлавіцеляў, правільнае сьціртаваньне снапоў, падграбаньне каласоў, падрыхтоўка хавальняў, пераворваньне бульбы, буртаваньне і захаваньне бульбы і караньплодаў павінны стаць у цэнтры ўвагі партыйных і савецкіх арганізацый. Неабходна значна ўзьняць ролю і павысіць удзел сельскагаспадарчых навукова-дасьледчых установаў у барацьбе за ўраджай. Адначасова неабходна ўжыць належныя меры, каб захаваць ураджай ад пакраж, правесьці стараннны абмалот, устанавіць самы строгі ўлік ураджаю і г. д.

Відавочна, што як у часе веснавой пасеўкампаніі, зараз—у часе ўсяе ўборачнай работы мы даб'емся посьпехаў толькі на аснове бязьлітаснай барацьбы за няўхільнае правядзеньне генэральнай лініі партыі. У бязьлітаснай барацьбе з клясавым ворагам—кулаком і яго падпявалаці—правымі апартуністымі мільёны калгасьнікаў пад кіраўніцтвам партыі бралі кожнае з дасягненьняў у часе вясеньняй сяўбы і з ня меншай рашучасьцю дадуць адпор ворагу і зараз, які ўсямерна будзе дзейнічаць, каб сарваць посьпехі ўборачнай кампаніі.



Ударная брыгада жнеек калгасу „Расьсвет—Пабядзіцель“

# УБОРКА ЎРАДЖАЮ І БАРАЦЬБА СА СТРАТАМІ

У практыцы ўжываньня агратэхнічных мерапрыемстваў і да апошняга часу барацьбе са стратамі не ўдзяляецца належнай увагі. А гэта адно з важнейшых момантаў сыстэмы агрмерапрыемстваў у справе павышэньня ўраджайнасьці і росту сельскагаспадарчай вытворчасьці. Недаацэнка важнасьці барацьбы са стратамі зьяўляецца перажыткам старых капіталістычных форм вядзеньня сельскай гаспадаркі.

Матар'ял за дарэвалюцыйны пэрыяд аб стратах у сельскай гаспадарцы сьведчыць аб тым, што страты даходзілі да 25 проц., а па наглядананьнях асобных дасьледчыкаў за паасобныя гады страты давалі значна большыя лічбы. Так, па наглядданьнях Карамзіна за 1884 г.—31 проц., а па Андрыянаўскаму за 1896—97 г.—30,5 проц.

Прымітыўныя спосабы перавозкі, малацьбы і інш., якія ўжываюцца ва ўмовах індывідуальнай гаспадаркі за недахопам машын, гэты процант яшчэ значна павышалі.

Замежная практыка буйных капіталістычных сельскіх гаспадарак да крызіснага пэрыяду па Германіі давала сярэдні процант страт пры ўборцы зернавых:

| | |
|---|---|
| ручным спосабам . . . . . . . | 18,7 проц. |
| жаткамі-самаскідкамі . . . . . | 12,3 „ |
| снапавязалкай . . . . . . . . . | 7,8 „ |

На колькасьць страт адбіваецца ўвесь працэс палявых работ, пачынаючы ад перадпасеўнай апрацоўкі глебы, высеву культур і канчаючы ўборкай ураджаю і яго перавозкай. Але страты дасягаюць найбольшай колькасьці пры ўборцы ўраджаю, што відаць з ніжэйпрыведзеных сярэдніх лічбаў па культурах, якія даводзіць М. А. Юрцоўскі ў кніжцы „На борьбу с потерями урожая“:

| | |
|---|---|
| па зернавых . . . . . . . . | 20—22 проц. |
| „ ільну (валакну) . . . . . | 25 „ |
| „ пладох і гародніне . . . . | 30 „ |
| „ канаплі (валакно) . . . . . | 35 „ |
| „ сенаўборцы . . . . . . . . | 40—50 „ |
| „ насеньні кармовых траў даходзіць да | 75 „ |

Зразумела, што пры тых вялізарнейшых капіталаўкладаньнях у сельскую гаспадарку, якія мы трацім у сучасны момант на мэханізацыю і хэмізацыю і цэлы рад іншых мерапрыемстваў агратэхнічнага парадку, мы ня можам цярпець далей тых страт, якія адбіраюць у нас у сярэднім $^1/_3$ частку ўраджаю. Калі мы зьнізім процант страт на 20—25, то гэта значыць, што мы падымаем ураджайнасьць нашых палёў на 20—25 проц. І таму барацьба са стратамі ёсьць прамы і непасрэдны шлях да павышэньня фактычнай ураджайнасьці.

Справа барацьбы са стратамі ва ўмовах сацыялістычнай сельскай гаспадаркі мае неабмежаваныя магчымасьці для пасьпяховага зьнішчэньня іх. Праводзіць справу павышэньня ўраджайнасьці, недаацэньваючы барацьбы са стратамі, гэта значыць, не разумець сутнасьці самой справы.

Уборка ўраджаю зьяўляецца адным з найбольш напружаных пэрыядаў у сельскагаспадарчай вытворчасьці. Большасьць культур убіраецца на працягу вельмі абмежаванага часу, усяго 8—12 дзён. Шмат культур па тэрмінах уборкі адрозьніваюцца адна ад другой усяго на некалькі дзён, а ў некаторых выпадках некалькі культур патрабуюць адначасовай уборкі, таму на час уборкі і ствараецца найбольшая напружанасьць з рабочай і цягавай сілай, а таксама і з машынамі.

Гэта напружанасьць тым больш прымае вострае становішча, чым менш удзялялася ўвагі тэрмінамі і чарзе высеву паасобных культур вясной, з мэтай іх неадначасовага пасьпяваньня і ўборкі. Таму ўборка зьяўляецца найбольш адказьнейшым пэрыядам у сельскагаспадарчых работах і ўвесь посьпех будзе залежаць ад таго, у якой меры кожная асобная гаспадарка здолее арганізаваць рабочую і цягавую сілу, падрыхтаваць належныя прылады і машыны.

Адным з важнейшых момантаў, які павінен быць паложан у аснову складаньня плянаў уборачных работ, гэта—ушчыльнёныя тэрміны ўборкі з устанаўленьнем адпаведнай чаргі паступленьня пад уборку паасобных культур, што праводзіцца на аснове ўліку і фактычнага пасьпяваньня.

У адпаведнасьці з патрэбамі ў цягавай і рабочай сіле, а таксама машын і транспартных сродкаў, што можа быць вызначана толькі ў выніку дэтальнай прапрацоўкі плянаў уборкі, трэба своечасова правесьці работы па рамонту маючыхся машын у гаспадарцы і набыцьці новых, недастаючых. Пры чым, нельга абмяжоўвацца тым рамонтам машын, які праводзіўся ў зімовы час.

Усе машыны і інвэнтар павінны быць дасканала правераны перад уборкай дадаткова.

Вялікая ўвага ў гаспадарцы павінны быць удзелена прапрацоўцы норм зьдзельшчыны і спосабам прэміраваньня, як меры стымуляваньня вытворчасьці працы. Трэба памятаць, што толькі тыя нормы выпрацоўкі і меры прэміраваньня будуць каштоўнымі



Уборка ў калгасе „Надзея“.

і дадуць належныя вынікі, якія будуць для калгасьніка даведзены ў даступнай, простай і зразумелай форме.

Не апошняе месца ў сыстэме арганізацыі уборачных работ займаюць дарогі. „Дарогі, гэта—нэрвы ўсяго гаспадарчага арганізму“, без належнага становішча якіх нельга забясьпечыць сваячасовыя работы транспарту і перакідкі машын бяз лішніх страт, псаваньня, як грузаў, так і саміх транспартных сродкаў. Таму ўсе дарогі, а таксама і масты павінны быць да пачатку уборачных работ прыведзены ў належнае становішча.

У значнай ступені памяншаюць страты такія прасьцейшыя мерапрыемствы, за якія трэба рашуча змагацца ў час уборкі, як:

1. **Барацьба з агрэхамі** (грывамі) няскошанай збажыны пры заваротах уборачных машын, якія ў сярэднім даюць ня менш 2 проц. страт штогодна. Пазбавіцца ад агрэхаў можна простым прыцапленьнем да пярэдняй часткі трактара маркёра „Гайда“, які палягчае і дапамагае трактарысту правільна весьці трактар на заваротах. Трактар на заваротах павінен ісьці ціха і плаўна. Трэба ўжываць у якасьці барацьбы з агрэхамі скашваньне ўраджаю касой.

2. Для трактарнай цягі пры ўборцы збажыны трэба адводзіць вучасткі найбольш буйныя па плошчы з меншай саломай і меншай засьмечанасьцю. У тых выпадках, дзе прыходзіцца касіць трактарнай цягай засьмечаныя пасевы, машыну трэба весьці на першай хуткасьці. Наогул, засьмечаныя пасевы лепш убіраць конскай цягавай сілай.

3. Увядзеньне ў практыку зернаўлавіцеляў (спецыяльныя скрынкі), якія дапасоўваюцца да жаткі, у якія пападае выбітае зерне з платформы жаткі. Гэтае простае прыстасаваньне ў практыцы сельскай гаспадаркі дае да 1 цэнтнэра зерня з гектара.

4. Асабліва вялікае значэньне ў зьмяншэньні страт аказвае спосаб уборкі палёгшай збажыны, калі уборачныя машыны пускаць супроць паляганьня. У Хоперскім зернасаўгасе ў 1930 годзе скошваньне збажыны па нахілу давала 23 проц. страт, а супроць палаганьня—толькі 6,6 проц.

5. Пуск конных грабель пасьля уборкі ўраджаю дае страт 0,5—1 цэнтнер з га, а ў некаторых выпадках і больш. Калі шмат застаецца каласоў на полі пасьля звозкі ўраджаю, то граблі трэба пускаць у другі раз, пры ўмове, калі каласы ня доўга заставаліся ляжаць на полі і зерне ня высыпалася з іх.

6. У раёнах з частым выпадзеньнем дажджоў, да якіх належыць і БССР, трэба пашырыць спосаб скірдаваньня збажыны на полі, асабліва ў тых выпадках, дзе гаспадарка за недахопам складачных памяшканьняў вымушана праводзіць малацьбу збажыны на полі. Гэта скарачае ў значнай ступені перавозку ўраджаю на сядзібу снапамі і страхуе гаспадарку ад лішніх страт зерня, ад замаканьня яго ад дажджу ў час уборкі, а таксама разгружае транспарт, які бывае асабліва загружан у час уборкі.

У справе барацьбы са стратамі павінны знайсьці сваё поўнае прымяненьне 6 умоў т. Сталіна, якія дапамогуць ліквідаваць абязьлічку і ўраўнілаўку—што забясьпечыць посьпех барацьбы са стратамі.

**А. Сільвестровіч.**

# МТС на перадавыя уборачнай

Вынікі посьпехаў веснавой кампаніі ў барацьбе за павышэньне ўраджаю будуць толькі пасьля той аграмаднай працы, якую трэба правесьці ў час уборачнай кампаніі. Вытворчы працэс уборкі павінен быць сваячасовым, бо тэрміны ўборкі часта вымяраюцца некалькімі днямі і кожны прапушчаны дзень прыносіць вялікія страты.

Таму ў час уборачнай кампаніі патрэбна мабілізаваць усе сілы, усе сродкі вытворчасьці на барацьбу за сваячасовую ўборку, абмалот і здачу (продаж) таварнага хлеба дзяржаве. Патрэбна ўзброіць барацьбу за ўборку новымі машынамі, новай тэхнікай навучыцца па-новаму кіраваць і працаваць.

Асноўнай формай унядрэньня новай тэхнікі ў калектыўную сельскую гаспадарку, асноўным арганізатарам яе павінна стаць МТС. МТС—гэта пасьлядоўна сацыялістычныя прадпрыемствы ў сельскай гаспадарцы прызваны партыяй зьдзейсьніць рашаючую ролю ў справе завяршэньня сацыялістычнай рэканструкцыі—павінны стаць у першыя рады за пасьпяховае правядзеньне ўборкі, абмалоту і здачы-продажы дзяржаве таварнай прадукцыі.

У сучасны момант на палёх БССР працуе каля 60 МТС з трактарным паркам звыш 1 тыс. 500 машын. Калі ў мінулым годзе абслужана было 1 тыс. 870 калгасаў, то ў гэтым годзе колькасьць абслугоўваемых калгасаў павялічылася да 2 тыс. 680. Засеяна 485 тыс. га супроць 212 тыс. га ў мінулым годзе. Колькасьць МТС у гэтым годзе, згодна пастановы СНК, павінна павялічыцца да 100.

Важнейшыя задачы, якія стаяць перад МТС у часе ўборкі і падрыхтоўкі да яе, наступныя: у аснову ўсёй працы па ўборцы, як адзначана ў пастанове СНК СССР і ЦК УсеКП(б), павінна быць пастаўлена барацьба са стратамі, што дасягаецца сваячасовасьцю выконваемых работ, шляхам павышэньня вытворчасьці працы праз ужываньне складаных машын, умелай арганізацыі і выкарыстаньня коннага інвэнтара ў злучэньні з трактарам. Трэба падкрэсьліць, што ва ўборачную кампанію 1932 году посьпех будзе залежаць ад правільнага і поўнага выкарыстаньня інвэнтару сумесна з трактарам і высокай працоўнай дысцыпліны калгасьнікаў.

Задачы МТС у час уборачнай асабліва адказны ў правільнай арганізацыі работ, расстаноўцы рабочай сілы і забясьпечаньні высокай вытворчасьці працы калгасьнікаў пры конным уборачным інвэнтары. Асновай арганізацыі ўсіх работ у калгасах, абслугоўваемых МТС у час уборачнай, павінна быць зьдзельшчына, пры чым зьдзельшчына брыгадная, з тым, каб праўленьнем калгасу ў залежнасьці ад якасьці павышалася ці паніжалася аплата для брыгады і брыгадзіра ад 10 да 20 проц.

Арганізаваць гэту форму ня так проста. Той факт, што нашы МТС у час засеўкампаніі гэтага году не дабіліся поўнага пераводу на зьдзельшчыну, гаворыць аб недастатковым выкарыстаньні мерапрыемстваў і невыкананьні дырэктыў чэрвеньскага пленуму ЦК УсеКП(б) 1931 году і пастановы ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 г., што „усе бяз выключэньня работы ў калгасах павінны быць арга-

нізаваны на падставах зьдзельшчыны з тым, каб самыя формы зьдзельшчыны былі найбольш простымі і зразумелымі кожнаму калгасьніку і належачая яму колькасьць дзён была занесена ў яго працоўную кніжку“.

На падставе зьдзельшчыны неабходна правільнае і чоткае нармаваньне работ, даведзенае да кожнага калгасьніка. МТС павінна кіраваць складаньнем і прапрацоўкаю норм у калгасах і брыгадах, бо нормы, складзеныя ў цэнтры, могуць павышацца хваляй сустрэчных норм выпрацоўкі.

МТС павінны ў гэтых адносінах сьцерагчыся адміністраваньня, МТС павінна арганізаваць калгасную актыўнасьць, накіроўваць і садзейнічаць сацспаборніцтву і ўдарніцтву калгасных мас.

Трэба ў час уборкі пабудаваць нормы выпрацоўкі так, каб якасьць працы ў аднолькавай меры ўлічвалася з колькасьцю працы і самае галоўнае, каб калгасьнік пры выкананьні якасных паказчыкаў быў зацікаўлен матэрыяльна ня менш чым пры выкананьні колькасных норм выпрацоўкі.

Правільнае правядзеньне ўборачнай і хлебазагатоўчай кампаніі зьяўляецца важным мерапрыемствам па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў. Уся арганізацыйная работа і непасрэднае кіраўніцтва ў калгасах, абслугоўваемых МТС, павінна весьціся праз вытворчыя вучасткі, якія зьяўляюцца абавязковымі для МТС у ўборачную кампанію. Сапраўды кіраваць гэтай кампаніяй МТС змогуць тады, калі вытворчыя вучасткі будуць падрыхтаваны да ўборачнай. Вытворчыя вучасткі павінны загадзя скласьці падрабязныя рабочыя пляны з улікам усіх работ. Сюды павінны ўвайсьці жніво, вязка, сушка, скірдаваньне, звозка, абмалот, здача хлеба. Уборачныя работы павінны быць увязаны з своечасовым правядзеньнем азімай кампаніі і зябі. Рабочыя пляны павінны прапрацоўвацца пры ўдзеле ўсёй масы калгаснага актыву, улічыць усе прапановы калгасьнікаў, прапрацаваць іх у брыгадах, праўленьнях калгасаў і ўвязаць у адзіную сыстэму кіраваньня МТС—рабочы плян.

МТС павінна прадугледжваць і паміжкалгасную дапамогу, каб у належны момант можна было перакінуць працоўную сілу разам з трактарамі і машынамі на дапамогу адстаючым калгасам.

МТС павінна расставіць машыны і трактары на сваіх вытворчых вучастках так, каб ня было прастояў, каб кожны трактар, кожная машына была максымальна выкарыстана. Патрэбна яшчэ раз прагледзець, наколькі трактары змогуць бесьперабойна правесьці працу па ўборцы, зьмяніць зношаныя часьці да пачатку ўборачнай, каб у самы разгар не прастойваць па некалькі дзён, запасьціся хутка зношваемымі часткамі.

МТС павінны забясьпечыць кваліфікаванымі работнікамі па прычэпных трактарах і машынах, павінны зьліквідаваць частыя паломкі, меўшыя месца ў час веснавой сяўбы, з-за дрэннай падрыхтаванасьці кадраў. Абязьлічка машын павінна быць зьнішчана.

Кожны трактарыст ва ўборачную павінен ведаць, што аплата яго вымяраецца ня толькі колькаснымі, але ў аднолькавай меры і якаснымі паказчыкамі.

Своечасовым выкананьнем задач, стаячых перад МТС, будзе забясьпечана з найменшымі стратамі ўборка, здача таварнай прадукцыі і гэтым большае ўмацненьне абароназдольнасьці нашай краіны.

**М. Б.**

## Скірдаваньне — важнейшае зьвяно ўборкі

У 1932 г. з усёй рашучасьцю ставіцца пытаньне аб абавязковым скірдаваньні. Народны Камісарыят Земляробства БССР у сваёй пастанове аб уборцы і барацьбе са стратамі абавязвае ўсе зямельныя ўстановы, дырэктароў саўгасаў, МТС і праўленьні калгасаў безадкладна прыбіраць прасохлыя снапы ў скірды або гумны.

Скірдаваньне акрамя захаваньня ад псаваньня збожжа мае яшчэ адну перавагу: пасьля дажджу малацьба можа працягвацца і ў абмалот ідзе сухая заскірдаваная збажына, тады калі яна, лежучы на полі ў копах, або радох нават пасьля невялікага дажджу, патрабуе прасушкі і малацьба спыняецца.

Такім чынам скірдаваньне зьменшвае страты, павышае вытворчасьць малатарні і дае магчымасьць шпарка скончыць абмалот.

Але-ж скірдаваньне не павінна поўнасьцю заняць увагу і сілы саўгаса і калгаса ад адначасова праводзімай малацьбы. Павінна быць два патокі хлеба: адзін—да скірдаў і другі—да малатарань.

### Падрыхтоўка да скірдаваньня

Адначасова з жнівом ідзе скірдаваньне. Зацягваць скірдаваньне нельга, бо збожжа асыпаецца, ды можа пайсьці дождж, тут, вядома, будуць страты. Для скірдаваньня вязаць снапы абавязкова сьледам за жняяркай, ды наогул нельга пакідаць невязаную збажыну на полі, бо гэта прыносіць вельмі вялікія страты. Калі пры ўборцы не хапае цягавай сілы і снапоў адразу нельга падвезьці да скірды або малатарні, то снапы не павінны пакідацца раскіданымі, а трэба скласьці іх у копы.

У розных мясцох копы могуць быць рознай формы і памеру. Пры складаньні ў копы не павінна быць калосьсяў на зямлі, бо яны могуць прарасьці, снапы складаюцца каласамі ў сярэдзіну, пад вялікімі копамі патрэбна пакідаць прадушыны.

Пры перавозцы снапоў ад месца іх ляжаньня ў снапох або копах да месца, дзе складаюцца скірды, трэба захаваць збажыну ад страт. Для таго вазы і інш. сродкі цягі засьцілаюцца брэзэнтам, мяшкамі або іншай падсьцілкай, асьцярожна падаваць снапы на воз і асьцярожна здымаць, снапы ўкладаюцца калосьсямі ўсярэдзіну, калосься пасьля ўкладкі капы зграбаюцца ручнымі граблямі. Трэба арганізаваць рух вазоў так'м чынам, каб ня было прастояў у скірды.



Рис. 5. Поворотный журавль для метания снопов в скирды. А — ось 2,5 см; Б — коромысло; В — штырь, Г — сборная вилка; Д — крюк толщиной 2,5 см

Памер скірды і месца яе складаньня вызначаецца найбольш выгодным радыусам возкі снапоў і магутнасьцю малатарні. Скірды павінны складацца групамі на адным вучастку па некалькі штук, каб малатарня некаторы час працавала на адным месцы.

Калі скірды складаюцца бяз ужываньня усякай мэханізацыі, то прыблізны памер нямэханізаванай скірды вызначаюцца ў 4—6 мэтр. шырынёю і столькі-ж вышынёй.

Даўжыня можа быць розная, прыблізна 10—12 м. Калі скірдаваньне мэханізуецца нават прымытыўнымі спосабамі—блёкі, журавель і г. д., вышыня скірды можа быць да 10 м, шырыня 8 м і даўжыня 15 м. Пры такіх памерах скірды, палягчаецца малацьба, бо да палавіны вышыні са скірды снапы к барабану пойдуць па латкох самацёкам.

Для супроцьпажарных мэт патрэбна наступнае. На месцы, дзе будзе складацца скірда, трэба ачысьціць плошчу ад дзёрна, ачышчаная плошча павінна быць на мэтры тры шырэй скірды, скірда ад скірды складаецца на адлегласьці 20 м, ставіцца бочка з вадой каля кожнай скірды, каля скірд і пры малацьбе забараніць курэньне, устанавіць варту каля скірд для нагляданьня, каб ня было пажару і ня было ноччу пакражы.

### Як складаць скірды і мэханізацыя скірдаваньня

Снапы, якія кладуцца ў скірды, не павіны быць вільготнымі, або мокрымі, бо вільготны хлеб, складзены ў скірду, сагравецца і псуецца. Форма скірды бывае круглая і простакутная. У нас больш распаўсюджана простакутная форма скірд.

Снапы трэба ўкладваць правільнымі радамі, ніжні рад пад шнурок. Скірда складаецца з паасобных, цесна зложаных зьвеньняў. Кожнае зьвяно разьлічана на паўсутачную або сутачную малацьбу. Паасобныя зьвеньні кладуцца паміж сабою ў выглядзе круга, гэта робіць скірду больш устойлівай. Снапы кладуцца адзін да аднаго шчыльна, калосьсямі ў сярэдзіну.

Завяршэньне скірды трэба рабіць роўнамерна, каб верх скірды меў выгляд страхі, тады дажджавая вада сьцякае. Скат робіцца прыкладна ў 30—40 градусаў. Верх скірды накрываецца саломай і ачэсваецца, зьверху пажадана пакласьці драўляныя рэйкі, або сухое веццe, каб не разносілася салома ветрам.

Асаблівая ўвага зварочваецца на скірду снапоў,— гэта самая цяжкая праца пры скірдаваньні і яе, па магчымасьці, трэба мэханізаваць, што дасьць магчымасьць паскорыць і палегчыць работу і скараціць лік працоўных дзён.

Самы просты спосаб мэханізацыі—гэта скарыстаць пляцоўку з блёкам і жураўлем.

Досыць простае прыстасаваньне для скірдаваньня Ягорава. Яно мае форму паваротнага жураўля і можа быць зроблена ў кожным саўгасе і калгасе.

Паваротны журавель двайнога дзеяньня для складаньня снапоў у скірды робіцца наступным чынам: на двух драўляных павоўках 200×100 мм набіваецца з цалёвых, а лепш з вяршковых дошак пляцформа, на якой 4-мя распоркамі ўмацоўваецца ў сярэдзіне саней слуп, дыямэтрам 200—250 мм, урэзаны ў пол саней (мал. 1). Зьверху слупа на вышыні 5—8 м ад зямлі на штылі, таўшчынёю в 1 цаль, убітым у слуп (Б) варочаецца вілка (О) вышынёй 350 мм, у якой знаходзіцца гарызантальная вось (А) для хода ў ёй каромысла. Каромысла (Б) мае сячэньне 100—300 мм, у даўжыню—16 м. У сярэдзіне каромысла маецца брус 100×300 мм даўжынёй 4 м, які захоўвае каромысла ад гнуткасьці. На двух канцох каромысла маюцца кручкі, на якія падвешваюцца дзьве сеткі. Вушка 1-е заусёды надзета на кручок, а вушка 2-е надзяваецца толькі тады, як сетка на возе напоўнена снапамі і гатова к пад'ёму, здымаецца на скірдзе ў час разгрузкі.

Сані, шырыня якіх 3—4 м і даўжыня 6 м, падцягваюцца да месца скірдаваньня канем або трактарам. Сані ўстанаўліваюцца каля таго месца, дзе будзе закладацца скірда. Да палявога канца каромысла пад'яжджае воз, нагружаны снапамі. Вушка другое сеткі здымаецца з крука, у сетку закладаюцца снапы, пятля надзяецца на крук. Пры нацягваньні каната ўніз першая сетка ідзе на скірду, вольная ідзе на воз, дзе з ёй абходзяцца так, як было пакавана вышэй.

Паднятыя снапы разгружаюцца такім чынам: пятлю 2-ю здымаюць з кручка і снапы аслабаняюцца. Пасьля аслабаненьня снапоў пятля 2-я надзяецца на крук і сетка можа зьвярнуцца на воз за снапамі. Сані па меры складаньня скірды могуць прасоўвацца ўдоўж скірды.

Пры жураўлі самае меншае могуць быць 3 чалавекі, з іх адзін пры канцы, двое на ўкладцы—на скірдзе. Укладку на возе ў сетку робіць возчык. Для паскарэньня работы колькасьць людзей павялічваецца ўдвое.

Першыя 8—9 дзён патрэбна сачыць за тэмпературай у сярэдзіне скірды, бо, калі збажына складзена сырой, то ў сярэдзіне скірды можа сагрэцца і сапсавацца.

Тэмпэратуру вымяраюць тэрмомэтрам, або жалезнай ці драўлянай палкай і інш. Пры выманьні са скірды яе прабуюць рукой, калі яна цёплая, то гэта значыць, што працэс саграваньня пачаўся і скірду трэба разабраць і снапы прасушыць, або ўтвараць абмалот.

**Г. Б.**



Уборка збожжа.

**Усе сілы вясковых партыйных арганізацый— на барацьбу са стратамі**

# Час і спосабы ўборкі сіласных расьлін

Да гэтага часу не зьвярталася амаль ніякай увагі на час уборкі сіласных расьлін. Уборку гэтых культур і іх сіласаваньне звычайна пачынаюць у верасьні ці кастрычніку месяцах, калі асноўныя працы ў гаспадарцы скончаны і маюцца вольныя рабочыя рукі. Такі погляд на сіласныя расьліны памяншае гаспадарчае значэньне сіласу ў кармавым бюджэце гаспадаркі і вельмі значна зьніжае яго кармовую вартасьць, а часта і зусім псуе яго. Сіласныя расьліны, як і збожжавыя культуры, павінны дакладна ўбірацца ў адпаведныя стадыі іх разьвіцьця. Толькі сваячасовая ўборка сіласных расьлін гарантуе добраякасны і карысны корм.

## Час уборкі сланечніка

Усе сіласныя расьліны павінны ўбірацца ў тэй стадыі разьвіцьця, калі яны даюць найбольшую зялёную і сухую масу, больш спажыўных і пераварымых матэрый і лепш спажыўных і пераварымых матэрый і лепш сіласуюцца. Таму, азначэньне сіласнай сьпеласьці расьлін—зьяўляецца першачарговай задачай, што дасягаецца толькі шляхам спэцыяльнага вопытнага вывучэньня.

**Уплыў часу ўборкі на ўраджай сланечніка**

| Стадыі разьвіцьця | Ураджай у *цнт* на *га* | | Процантны склад сырой масы | | | Аналіз росту | | Час уборкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сырой масы | Сухой масы | Сьцяблы | Лісьці | Галоўкі | Высата ў *см* | Таўшч. ў *см.* | |
| Пачатак кветкаваньня | 173,5 | 27,9 | 51,7 | 57,1 | 11,2 | 111,5 | 4,3 | 13-VIII |
| Поўнае кветкаваньне | 264,2 | 38,8 | 45,5 | 21,6 | 32,9 | 131,5 | 4,4 | 5-IX |
| Малочная сьпеласьць | 198,1 | 27,3 | 46,8 | 16,0 | 37,2 | 133,1 | 4,4 | 25-IX |

З прыведзенай табліцы яскрава відаць, што раньняя і позьняя ўборка сланечніка зьяўляецца аднолькава шкоднай і недапушчальнай. Пры позьняй уборцы ўраджаю сырой масы памяншаўся на 66,1 **цнт**, а сухой — на 11,5 **цнт** на **га**. Раньняя ўборка панізіла ўраджай сырой масы на 90,7 **цнт** і сухой—на 10,9 **цнт** на **га**. Найбольшы ўраджай сланечніка, як зялёнай, так і сухой масы атрыман у пэрыяд яго поўнага кветкаваньня.

Якасьць ураджаю, яго хэмічны склад, пажыўнасьць і пераварымасьць таксама знаходзяцца ў поўнай залежнасьці ад часу ўборкі.

У раньняй стадыі росту сланечнік трымае найбольшы процант спажыўных матэрый, але агульны ўраджай апошніх з **га** зьяўляецца вельмі нізкім і таму ўборка ў такой стадыі зьяўляецца недапушчальнай. Найбольшую колькасьць спажыўных матэрый з адзінкі плошчы сланечнік дае ў пэрыяд поўнага кветкаваньня. Як паказваюць даныя сілас з позна і рана ўбранага сланечніка мае горшую якасьць. Звычайна такі сілас трымае менш малочнай і больш масьлянай кіслаты. Акрамя гэтага сілас з познаўбранага сланечніка ў два разы больш трымае клетчаткі, што моцна зьніжае яго пераварымасьць і спажыўную вартасьць.

Спазьненьне в уборкай да малочнай сьпеласьці памяншае колькасьць лісьцяў на 5,6 проц. і павялічвае колькасьць сьцяблоў на 1,3 проц. Найлепшыя суадносіны паміж сьцяблам, лісьцямі і галоўкамі атрымліваюцца ў пэрыяд поўнага кветкаваньня.

Адсюль выцякае, што пазьніцца з уборкай сланечніка нельга. Як правіла, сланечнік, згодна прыведзенай табліцы, павінен убірацца ў стадыі ад паловы да поўнага кветкаваньня, што ва ўмовах БССР прыходзіцца на канец ліпеня і першую палову жніўня месяца. Ніякіх адхіленьняў ад гэтага правіла быць ня можа і яно цьвёрда павінна праводзіцца ў жыцьцё. У гэтай стадыі ўборкі сланечнік дае найбольшы ўраджай сырой і сухой масы, больш спажыўных матэрый, лепш сіласуецца і добра паядаецца.

## Уборка кукурузы

Час уборкі значна ўплывае і на ўраджай сіласнай масы кукурузы.

**Уплыў часу ўборкі на ўраджай кукурузы**

| Стадыі разьвіцьця | Ураджай у *цнт* на *га* | | Процантны склад сырой масы | | | Аналіз росту | | Час уборкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сырой масы | Сухой масы | Сьцяблы | Лісьці | Пачаткі | Высата ў *см* | Таўшч. ў *см* | |
| Выкідв. мужчынск. мяцелак . . . | 67,9 | 8,8 | 67,6 | 32,4 | — | 105,1 | 6,0 | 25-VIII |
| Выкідв. жаночых суквецьцяў . . | 74,7 | 14,8 | 60,0 | 40,0 | — | 150,3 | 6,0 | 5-IX |
| Малочн. сьпеласьць | 110,0 | 39,6 | 45,7 | 28,1 | 26,2 | 155,2 | 6,9 | 25-IX |

Вынікі досьледу паказваюць, што час уборкі кукурузы вельмі рэзка ўплывае на вышыню сырой і сухой масы ўраджаю. Пачынаючы ад моманта выкідваньня мужчынскіх мяцелак і да пэрыяда малочнай сьпеласьці ў кукурузы адбываецца значнае і рэзкае нарастаньне ўраджаю. Так, напрыклад, калі ўраджай першага пэрыяду ўборкі прыняць за 100, дык у другі пэрыяд ураджай сырой масы павялічыўся на 10 проц. і сухой — на 68,1 проц., а к пэрыяду малочнай сьпеласьці ўраджай сырой масы павялічыўся на 62 проц і сухой масы — на 35 проц.

Сіласаваньне ў пэрыяд малочна-васковай сьпеласьці звычайна праходзіць больш пасьпяхова і кукурузны сілас мае лепшы ўплыў на малочную прадукцыйнасьць жывёлы. Значыць, мы прыходзім да бясспрэчнага вываду, што кукурузу на сілас неабходна ўбіраць у стадыі яе малочна-васковай сьпеласьці. Як ужо адзначалася ў гэты пэрыяд, кукуруза дае найбольшы ўраджай, больш трымае

спажыўных матэрый, лепш сіласуецца і сілас мае найлепшы ўплыў на малочную вытворчасьць жывёлы. Ва умовах БССР уборка кукурузы ў сярэднім прыходзіцца на верасень м-ц. Уборка ў больш раньнія пэрыяды, калі кукуруза дае малы ўраджай, ці вельмі позна—у стадыі поўнай сьпеласьці, калі асноўная маса лісьцяў адмірае і засыхае—аднолькава недапушчальны.

## Уборка на сілас другіх культур

Сланечнік і кукуруза зьяўляюцца спэцыяльна сіласнымі расьлінамі. Але іх звычайна ў гаспадарцы не хапае і для папаўненьня неабходна сіласаваць другія культуры. Часьцей усяго ў дадатак да сланечніка і кукурузы для сіласаваньня ўжываюць яравую віку, канюшыну, доньнік белы, батву корань-клубняплодаў, сарнякі, атаву лугоў, лубін і конскія бабы. Усе гэтыя расьліны павінны ўбірацца на сілас не тады, калі маецца час, а толькі ў той пэрыяд, калі яны даюць найбольшы ўраджай сырой і сухой масы і трымаюць найбольшую колькасьць спажыўных матэрый.

**Віка-аўсяная ці гароха-аўсяная мяшанкі** на сілас павінны ўбірацца ў час заснаваньня стручкоў у вікі ці гароху, калі гэтыя культуры трымаюць найбольшую колькасьць пераварымага бялка і крахмальных эквівалентаў. Канюшыну і доньнік белы неабходна сіласаваць у момант іх поўнага кветкаваньня, а сарнякі ў пэрыяд кветкаваньня і да яго. Звычайна сарнякі сіласуюцца ў апошнюю чаргу, восеньню, пасьля скарыстаньня культурных расьлін. К гэтаму часу большасьць сарнякоў пасьпявае і засыхае. Сілас з такіх сарнякоў атрымоўваецца дрэннай якасьці, неахвотна паядаецца і мае нізкую пераварымасьць. Сваячасовае скарыстаньне сарнякоў на сілас—павінна стаць баявой задачай нашых саўгасаў і калгасаў.

**Батва бульбы** на сілас павінна ўбірацца за адзін—два тыдні да пачатку копкі бульбы. Больш раньняя уборка бульбянай батвы недапушчальна, бо рэзка зьніжае ўраджай бульбы. Таксама ня трэба сіласаваць сухую батву, асабліва пасьля копкі бульбы, калі яна бывае моцна забруджана. Батва корань-плодаў і капусныя лісьця звычайна сіласуюцца ў момант уборкі гэтых расьлін. Як правіла батва ўсіх корань-клубняплодаў і капусныя лісьці перад закладкай у сілас трэба добра ачысьціць ад зямлі.

**Атава сенажацяй** і другіх шматгадовых расьлін павінна ўбірацца на сілас за 7—10 дзён, да пачатку замаразкаў. Для конскіх бабоў і лубіну найбольш спрыяючыя момантам уборкі зьяўляецца стадыя поўнага заснаваньня стручкоў.

## Спосабы ўборкі

Уборку сіласных расьлін неабходна максымальна мэханізаваць, асабліва пры наяўнасьці вялікіх плошчаў пад гэтымі культурамі. Як правіла усе сіласныя расьліны магчыма ўбіраць сенакасілкамі, жняяркамі і лабагрэйкамі. Добрыя вынікі дае ўборка і снапавязкамі, бо пры гэтым спосабе ўборкі кукуруза зараз зьвязваецца ў снапы, што дае вялікую эканомію ў рабочай сіле, пазбаўляючы гаспадарку ад клапатлівай і нуднай працы па збору асобных на полі расьлін. Батву бульбы таксама магчыма ўбіраць машынамі, узьняўшы нажавую паласу вышэй баразны.

Уборка сіласных расьлін машынамі памяншае патрэбы ў рабочай сіле і значна паскарае працу. Пры адсутнасьці машын ці пры вельмі значнай адзервянеласьці і таўшчыні сьцяблоў у кукурузы і сланечніка—сіласныя расьліны неабходна ўбіраць касой.

## Сіласаваць у момант уборкі

Шмат разоў прыходзілася назіраць, што ўбраныя расьліны на сілас некалькі дзён ляжаць на полі і ўжо ў завялым, пачарнеўшым відзе сіласуюцца. З такім зьявішчам неабходна весьці самую рашучую барацьбу. Як правіла, усе сіласныя расьліны, убраныя сваячасова, неабходна сіласаваць зараз-жа ўсьлед за ўборкай, не дапускаючы іх ляжаньня на полі, асабліва ў сухое і дажджлівае надвор'е. Таму к моманту ўборкі неабходна цалкам падрыхтаваць ямы, траншэі і другія сіласныя пабудовы.

Старыя сіласахавальні, дзе ўжо сіласаваўся корм, неабходна дасканала ачысьціць, а сьцены і дно прамыць растворам вапны. Пры загрузцы сіласа неабходна дасканала сачыць, каб сіласуемая маса мела нармальную вільготнасьць (65—75 проц.).

Загрузку ямы ці другой сіласнай устаноўкі неабходна скончыць у 2—3 дні. Перапыняць загрузку ні ў якім выпадку ня трэба, асабліва па некалькі дзён, як гэта часта мае месца ў практыцы нашых гаспадарак. Калі няма магчымасьці пазьбегчы перарыву больш чым на адзін дзень, тады верхні пласт сіласа трэба ізаляваць ад уплыву паветра. Наогул загрузка ўбранай зялёнай масы павінна праходзіць пры поўным захаваньні ўсіх правіл сіласаваньня.

Барацьба за сілас — барацьба за корм, барацьба за пашырэньне сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Сваячасовая ўборка сіласных павялічвае якасьць і колькасьць сіласнага корму. Таму сваячасовая ўборка сіласных культур павінна стаць баявой задачай і праграмай дзеяньня ўсіх саўгасаў і калгасаў.

Уборка сіласных у тэрмін — рашаючы момант у барацьбе за корм!

**Кальянаў Д. Г.**

Турская сельскагаспадарчая станцыя



Скірдаваньне вікі ў саўгасе імя Будзённага.

# З сьмяцьцёвых расьлін—каштоўны сілас

Адной з самых буйных крыніц сіласнай сыравіны зьяўляюцца розныя сьмяцьцёвыя расьліны. Самы спрыяючы час для сіласаваньня сьмяцьцёвых расьлін ужо наступіў. Шляхам сіласаваньня дзікіх сьмяцьцёвых расьлін мы ачышчаем нашы пасевы ад сьмяцьцёвага насеньня, ад палявых шкоднікаў, якія жывуць і вырастаюць на гэтых шкодных расьлінах. А ўсё гэта садзейнічае павялічэньню ўраджаяў усіх культур. Разам з гэтым мы закладзем сотні тысяч тон каштоўнага сакавітага корму на разьвіцьцё сацыялістычнай жывёлагадоўлі.

Дзікай сьмяцьцёвай расьліннасьці ў нас так многа, што яна дае магчымасьць кожнай калектыўнай гаспадарцы на працягу ліпеня і жніўня месяцаў закласьці сотні і тысячы тон сіласу. І таму кожны саўгас і калгас павінен з ліпеня шырока разгарнуць сіласаваньне іх.

Чартапалох, крапіва, аер, лебяда,—вось асноўныя сьмяцьцёвыя расьліны, якія льга скарыстаць для сіласаваньня. Уся гэта маса добра пераразаецца сячкарняй, загружаецца ў яму і ўтрамбоўваецца ручнымі трамбоўкамі. Жывёла паядае гэты сілас вельмі ахвотна—каровы на сіласнае кармленьне адказалі значным павялічэньнем удояў.

Сіласаваньне чартапалоха даўно праводзіцца ў Амэрыцы. Чартапалох—шкодная, дзікая, сьмяцьцёвая расьліна. Яго ня сеюць, ён расьце сам у дзікім відзе і там, дзе ён насьпявае раней іншых расьлін, яго рэкамандуецца скарыстоўваць для сіласаваньня. Па сваёй кармовай каштоўнасьці сіласаваны чартапалох роўны 50 проц. добрага сена люцэрны. Кожныя 100 *кгр* сіласаванага чартапалоху маюць у сабе 11 *кгр* крухмальных эквівалентаў і па сваёй спажыўнай каштоўнасьці стаяць на ўзроўні вікааўсянага сіласу.

Вельмі каштоўнай сыравінай для сіласаваньня зьяўляецца лебяда. Вопыт па сіласаваньні лебяды быў праведзен на Ленінградзкай занальнай станцыі.

Робячы параўнаньне сіласу з сланечніка з сіласам з лебяды, Ленінградзкая занальная станцыя канстатуе, што сіласаваная лебяда мела ў сабе больш пратэіну і менш клетчаткі, чым сіласаваны сланечнік. З гэтага станцыя робіць вывад, што на лебяду трэба зьвярнуць увагу, як на магчымую сіласную расьліну.

Практыкай гаспадарнікаў усе гэтыя даныя абавязваюць зьвярнуць увагу на чартапалох, крапіву і лебяду, як на каштоўную зялёную масу для сіласаваньня і ўжо ў бягучым, 1932 годзе, дабіцца таго, каб ніводзін кілёграм гэтай масы не прапаў марна.

Ленінградзкай занальнай станцыяй быў праведзен вопыт і па сіласаваньні розных дзікіх палявых траў. Сіласуемая маса складалася з пікульніку, лебяды, горца малага, зьвездачаткі, фіялкі трохцьветнай, купаўкі, шчаўя, сурэпкі, паўзучай канюшыны і інш. Найбольшая колькасьць—75 проц. была пікульніку, які ў чыстым відзе амаль не паядаецца жывёлай (увесь пакрыты жалезістымі калючымі валаскамі, асабліва калючы пад восень); затым ішлі зьвездачатка, шчаўе.

Хімічны склад сіласу і ператравімасьць спажыўных матэрый наступныя:

| | Спажыўн. матэр. у сіласе | Каэфіц. ператравім. | Пэратр. спаж. матэр. |
|---|---|---|---|
| Вада . . . . | 76,55 | — | — |
| Пратэін . . . . | 3,15 | 22,8 | 1,41 |
| Бялок . . . . | 2,20 | 83,0 | 0,73 |
| Тлушч . . . . | 1,21 | 62,5 | 0,76 |
| Безаз. экстр. матэр. . . | 9,58 | 50,6 | 4,85 |
| Клетчатка . . . | 6,11 | 51,0 | 3,12 |
| Попел . . , . | 3,40 | — | — |
| Арганічн. матэр. . . | 20,05 | 50,7 | 10,15 |

Вынікі гэтага сіласаваньня зьяўляюцца цалкам здавальняючымі. Аб гэтым паказваюць даныя праф. Кельнера аб ператравімасьці другіх кармоў. Калі параўнаць гэтыя даныя з данымі праф. Кельнера, дык будзе відаць, што даны сілас па сваёй ператравімасьці ўступаў зялёнай канюшыне ў цьвіценьні, але быў на ўзроўні добрага канюшыннага сена і вышэй таго-ж сена, змочанага дажджом. Такім чынам, амаль непаядаемая дзікая трава пікульнік пасьля сіласаваньня дала спажыўны сакавіты корм.

Надзвычай каштоўны вопыт па сіласаваньні палыну праведзен у 1931 г. Омскай занальнай станцыяй. Палын быў засіласаван у двух фазах вегетацыі—да цьвіценьня і ў пэрыяд плоданашэньня. Кожная фаза сіласаваньня двума спосабамі—халодным і гарачым. Аддзелам кармленьня станцыі праводзіўся вопыт па скармліваньню палыннага сіласу 19 каровам на працягу 80 дзён.

Вынікі вопыту аказаліся наступнымі. Сілас з палыну Сіварса незалежна ад часу яго скошваньня і спосабаў заквашваньня—пры скармліваньні яго малочным каровам да 16 *кгр* на галаву ў суткі не выклікаў ніякіх шкодных уплываў на фізыёлёгічныя адпраўленьні арганізму жывёлы.

Назіраньнямі над паядаемасьцю сіласу з палыну ўстаноўлена, што лепш паядаўся сілас з палыну больш раньняга ўзросту (да цьвіценьня) і горш—з больш старога (пэрыяд плоданашэньня). Так, пры скармліваньні сіласу з маладога палыну аб'едкаў на 1 карову ў сярэднім прыходзілася 1,1 проц. ад сярэдняй сутачнай дачы сіласу, а з палыну ў стадыі плоданашэньня—11,5 проц. На колькасьць аб'едкаў адбіваўся і спосаб сіласаваньня.

| Спосабы сіласаваньня | Колькасьць аб'едкаў у процантах | |
|---|---|---|
| | Да цьвіценьня | У пэрыяд плоданашэньня |
| Халодны . . . . . . . . | 0,6 | 9,4 |
| Гарачы. . . . . . . . . | 2,0 | 14,1 |
| У сярэднім . . . . | 1,1 | 11,5 |

Такім чынам, пры халодным спосабе сіласаваньня аб'едкаў было ў 2—3 разы менш, чым пры гарачым. Але на гэтым не абмяжоўвалася значэньне розных пэрыядаў росту і розных спосабаў сіласаваньня палыну.

Пры замене адной трэці асноўнага корму (сена плюс бульба—ільняная макуха) сіласам з палыну, на ўдоях кароў адбываліся наступныя зьмены—супроць тэарэтычных: павялічэньне або памяншаньне.

Адна і тая-ж колькасьць палыну пры халодным спосабе сіласаваньня дала павялічэньне ўдояў (малады палын—большае, старэйшы—меншае), а пры гарачым—паменшаньне іх (малады палын—меншае, старэйшы—большае).

Упітанасьць кароў пры ўвядзеньні ў іх рацыён палыннага сіласу не памяншалася. Не адбывалася ніякіх зьмен і ў тлустасьці малака і ў колькасьці сухіх матэрый у ім. Але пры скармліваньні дойным каровам палыннага сіласу ў колькасьці ад 11,5 да 16 *кгр* на галаву ў суткі, малако набывала ня толькі пах палыну, але і горкі смак. Пры чым, пры скармліваньні сілосу з маладога палыну, як пах малака, так і горкасьць яго былі меншыя, чым пры скармліваньні палыннага сіласу ў стадыі плоданашэньня. Ад сіласу гарачага заквашваньня малако атрымоўвалася больш горкае, чым ад сіласу, загатоўленага халодным спосабам

Пры кармленьні малочных кароў сіласам з маладога палыну, заквашанага халодным спосабам з сутачнай дачай у 8 *кгр* на галаву ні малако, ні масла па дасьледваньні экспэртызай горкага прысмаку ня мела. Як малако, так і масла набывалі толькі прыемны саладкаваты смак.

Вельмі каштоўнай зялёнай сыравінай для сіласаваньня зьяўляюцца чароты і сітнікі. Малады зялёны чарот пакуль ён не загрубеў, ахвотна паядаецца жывёлай. Гэта паказвае на добрую кармовую каштоўнасьць зялёнай сакавітай масы чароту. Малады чарот па сваёй спажыўнай каштоўнасьці набліжаецца да канюшыны і сэрадэлі.

Па ўсіх паказчыках сіласаваны чарот стаіць надзвычай высока—на ўзроўні сіласаванага зялёнага жыта: кармовых адзінак, бялку і крухмальных эквівалентаў ён мае столькі ж, як і жыта.



Заскірдаванае сена ў саўгасе імя Будзённага.

Бялковыя суадносіны у сіласаваным чароту нават лепшыя, як у зялёным жыце.

Па магутнаму разьвіцьцю сваёй зялёнай масы—па зьвестках праф. Кузьміна да 50 тон з 1 *га*—чаротавыя зарасьнікі з 1 гэктара могуць даць столькі спажыўных матэрый, колькі іх ёсьць на двух *га* добрага ўраджаю канюшыны.

Вопыт па сіласаваньні чароту ў 1931 годзе праведзен Омскай занальнай станцыяй. Было таксама праведзена сіласаваньне асакі і сланечніка. Акрамя таго, Омскай занальнай станцыі правёў паралельныя вопыты кармленьня малочных кароў сіласам з чароту, асакі і сланечніка.

Вынікі вызначэньня ператраўімасьці гэтых сіласаў, запасу ў іх ператраўімага бялка і іх спажыўнай каштоўнасьці ў крухмальных эквівалентах, наступныя:

| Назва сіласаваных кармоў | Крухмальных эквівалентаў | Ператраўімага бялка |
|---|---|---|
| **Сланечнікавы сілас** (стадыя малочнай сьпеласьці) | 7,1 | 0,71 |
| **Чаротавы сілас** (да калашэньня) | 17,92 | 2,21 |
| **Чаротавы сілас** (час цьвіценьня) | 10,70 | 1,17 |
| **Асаковы сілас** (да цьвіценьня) | 14,17 | 1,20 |
| **Асаковы сілас** (пасьля цьвіценьня) | 11,05 | 0,97 |

Гэтыя лічбы паказваюць, шта чарот, які быў засіласаваны да выкідваньня мяцёлак, па спажыўнасьці на 75 проц. вышэй і бялку мае ўдвая больш чым чарот, у якога мяцёлкі ўжо зацьвілі. Чарот да калашэньня ў два з паловай разы вышэй па спажыўнасьці і бялку мае ўтрая больш, чым сланечнік у стадыі малочнай сьпеласьці.

Гэтыя-ж лічбы паказваюць надзвычайна вялікую каштоўнасьць асаковага сіласу—удвая большага, чым сланечнікавы. Асака да цьвіценьня на 30 проц. спажыўней, чым пасьля цьвіценьня.

Многія дзікія палявыя і балотныя травы, якія ў зялёным відзе або зусім не паядаюцца жывёлай—чартапалох, рагозы, палын—або паядаюцца толькі маладыя і ў вельмі нязначнай колькасьці—асот, крапіва, пікульнік, розныя шчаўі, чарот, асокі, будучы засіласаваны, даюць каштоўны сакавіты спажыўны корм.

Па сваёй непатрабавальнасьці да глебы і апрацоўкі і па сваёй вялікай ураджайнасьці, некаторыя з іх—чартапалох—заслугоўваюць таго, каб нашы сельскагаспадарчыя дасьледчыя станцыі заняліся вывучэньнем разьвядзеньня іх спэцыяльна для мэт сіласаваньня.

Сіласаваньне дзікіх палявых траў ня толькі зьявіцца фактарам ачышчэньня ад пустазельля нашых палетак і павялічэньня ўраджайнасьці, ня толькі дапаможа ўмацніць кармавую базу, але і будзе садзейнічаць абагачэньню нашага кармовага бюджэту бялкамі, ліквідацыі бялковага галаданьня нашай жывёлы.

Сіласаваньне дзікіх балотных зарасьнікаў і дзікіх палявых траў зьявіцца вялікай крыніцай папаўненьня і значнага палепшаньня нашага кармовага бюджэту.

**Аграном Маркаў.**

# Атрутныя дзікія расьліны, якіх зусім нельга сіласаваць

1. **Балігалоў.** Расьліна вельмі падобна да насеньніка морквы, пятрушкі, або пастэрнаку. Суквецьце мае выгляд парасону. Балігалоў сустракаецца ўсюды ў вялікай колькасьці—цэлымі зарасьнікамі каля сядзіб і вёсак, у канавах, на сьметніках, па краёх палёў і гародаў.

2. **Амежнік.** Гэта расьліна падобна да папярэдняй толькі менш буйная. Яна пераважна балотная. Сустракаецца ўсюды на балотах, гразкіх або заліўных сенажацях.

3. **Цыкута.** Цыкута таксама падобна да балігалову.

4. **Какорыш,** або сабачая пятрушка. Вельмі падобна да сьцябла цьвітучай гародняй пятрушкі. Сустракаецца ўсюды на сьметніках, каля агародаў, у садох.

5. **Дурман.** Расьце часьцей каля сядзіб.

6. **Жывакосьць.** Гэта нысокая расьліна, з прыгожымі сінімі кветачкамі сустракаецца ўсюды ў азімых і яравых пасевах, на засьмечаных папарах, на сенажацях, на межах.

7. **Беляна.** Сустракаецца ўсюды, асабліва на сьметніках, каля двароў, дзе выкідваецца шмат усякага сьмецьця.

8. **Чамярыца.** Сустракаецца ўсюды па сенажацях паміж хмызьнякоў. Прыгожая расьліна з белымі кветачкамі. Але шкодная для ўсіх відаў жывёлы і для людзей.

9. **Казелец,** або люты цьвет. Вядома многа відаў гэтай расьліны. Большасьць іх у большай або меншай ступені атрутны. На балоцістых мясцох пашыран казелец атрутны. Гэта расьліна вядома ўсім сваімі высокімі зарасьнікамі з жоўтымі кветкамі на сырых выганах і іншых нізкіх мясцох. У высушаным відзе казелец на сена ня шкодны. **М.**

# Скарыстаем лубін на сілас

Вялікая ўраджайнасьць лубіну, непатрабавальнасьць яго да глебы, а таксама багацьцё ўсіх яго частак спажыўнымі рэчамі—усё гэтыя каштоўныя якасьці ставіць лубін на адно з першых месц сярод іншых культур.

Лубін сам па сабе—горкі, а таму не дазваляе ўжываць непасрэдна без папярэдняга абязгорчваньня ў корм жывёле.

За апошнія гады як за мяжой, так і ў СССР, пачынаюць скарыстоўваць лубін на сілас. Пры сіласаваньні асабліва разам з іншымі культурамі, горач лубіну зьмяншаецца і ён робіцца годным для корму.

Сіласаваньне лубіну павінна знайсьці сабе шырокае ўжываньне ў сацыялістычных гаспадарках, дапамагаючы павялічваць сутачныя кармовыя рацыёны бялком, што мае вялікае значэньне пры недахопе бялковых кармоў. Лубін мае ў сабе больш бялкоў, чым гарох, люцэрна і г. д. Калі параўнаць паміж сабою лубін, то жоўты лубін утрымоўвае пратэіну і бялку больш сіняга.

Увосень 1930 г. ў прыгарадным саўгасе імя Крупскай быў засіласаван жоўты лубін з батвою караньплодаў. Суадносіны сумесі былі такія: жоўтага лубіну 80 проц. і батвы караньплодаў 20 проц. Сіласаваньне было ўтворана халодным спосабам у яме, выкапанай у глеіністай глебе без абліцоўкі, памерам 3×3 мэтры. Сілас быў атрыман добрай якасьці. Былі ўтвораны хэмічныя аналізы на спажыўнасаць сіласу і яго кіслотнасьць. І выявілася, што суадносіны кіслот у гэтым сіласе добрыя. На долю малочнай кіслаты прыпадае 67,65 проц., масьлянай кіслаты ў гэтым сіласе няма. Спажыўнымі рэчамі сілас досыць багаты.

Скармліваецца гэты сілас буйнай рагатай жывёлай ў колькасьці 8—10 кілёграм у суткі. Паядаецца вельмі ахвотна. На смак малака сілас таксама не адбіўся. Удой, наадварот, павысіўся на 1 кілёграм.

Сіласаваньне лубіну ў чыстым выглядзе не дало станоўчых вынікаў. Увосень 1931 году на базе інстытуту ў саўгасе Малая Сьляпянка, быў засіласаван у вежы сіні лубін у стадыі завязваньня ніжніх бабоў. Паядаемасьць гэтага сіласу была кепская. Сілас дасьледваўся на кіслотнасьць чатыры разы. Па сваёй кіслотнасьці гэты сілас трэба аднесьці да недобраякасных сіласаў, таму што суадносіны воцатнай і масьлянай кіслаты няспрыяючыя.

Пры сіласаваньні лубіну ў чыстым выглядзе недахоп угляводаў (галоўным чынам, цукру) адбіўся на працэсе бражэньня. На паядаемасьці гэтага сіласу адбілася яго гарката. Таму лепш сіласаваць зялёную масу лубіну разам з якой-небудзь іншай сіласнай культурай. У 1931 годзе на базе інстытуту быў засіласаван сіні лубін з кукурузай у такіх процантных адносінах: кукурузы 56 проц. і сіняга лубіну 44 проц. Сіласаваньне рабілася халодным спосабам у цэмантнай яме.

Дасьледваўся сілас на кіслотнасьць у пачатку скармліваньня і ў самым канцы. У канцы скармліваньня кіслотнасьць сіласу зьменшылася. Паядаемасьць добрая. Норма дачы роўна 2,5 *кгр* падсьвінкам, якія стаяць на бэконным адкорме. Каровы гэты сілас елі надта добра.

Дасьледваліся спажыўныя рэчы, як ісходнага матар'ялу, так і атрыманага сіласу і выявілася, што найбольшая страта прыпадае на бялок. Процант клетчаткі ў сіласе меншы, чым у ісходнай сумесі.

Прымаючы пад увагу вялікую ўраджайнасьць лубіну на лёгкіх глебах у БССР і ўлічваючы нашы досьледы па сіласаваньні лубіну ў сумесі з іншымі вугляводзістымі кармамі, неабходна ў сіласную кампанію 1932 году больш унядрыць гэтае сіласаваньне ў нашых калгасах і саўгасах, у дастатковай ступені ацаніўшы ролю гэтых сіласаў, як багатых бялком кармоў.

Сіласаваньне лубіну ў чыстым выглядзе не зьмяншае горачы алкалоідаў, але ў сумесі з кукурузай, батвой караньплодаў і іншымі культурамі, горач лубіну значна зьмяншаецца і паядаемасьць яго ня толькі буйнай рагатай жывёлай, але і сьвіньнямі—добрая.

**Л. Нікалаева.**

# Хэмічная барацьба з пустазельлем

**Паграмок.** Паграмок—злоснае пустазельле палёў і лугоў. Барацьба з ім звычайнымі мэханічнымі сродкамі ўскладняецца. У Германіі ўжываюцца для гэтага хэмічныя матэрыі. Вельмі добрыя вынікі дае апырскваньне засьмечаных плошчаў 30-процантным растворам жалезнага купаросу. У адным з вопытаў такое апырскваньне зьнізіла колькасьць расьлін паграмка на адным кв. мэтры з 150 да 9. Ужываньне 40-процантнага раствору жалезнага купароса ў тым-жа вопыце панізіла колькасьць пустазельля на поле азімай пшаніцы з 150 да 7.

Добрыя вынікі ў барацьбе з паграмком дае яшчэ апыленьне засьмечаных плошчаў каінітам дробнага памолу. Каініт дае зьніжэньне пустазельля з 150 да 7 на кв. мтр.

Каінітам трэба апырскваць расьліны, пакрытыя расой. Патрэбна таксама выбіраць такія дні, калі пасьля апырскваньня не прадбачыцца дажджу. На гектар у сярэднім патрэбна каля 6 цэнтнэраў каініта.

**Палявы бадзяк.** Палявы бадзяк—шкоднае пустазельле азімых і яравых збожжавых пасеваў. У Германіі для барацьбы з ім ужываюць для азімых пасеваў 10-процантны раствор сернікавай кіслаты, а для яравых больш слабы раствор—ад 3 да 5 проц. На гектар выдаткоўваецца ад 1000 да 5000 літраў раствору. Дзеяньне сернікавай кіслаты на сарняк выяўляецца ўжо праз 3 гадзіны пасьля апырскваньня.

Мае вялікі ўплыў на дзеяньне кіслаты надвор'е. Пры сухім і халодным надвор'і раствор дзейнічае значна больш і моцнасьць яго можа быць паменшана (для апырскваньня яравых пасеваў да 2 проц., для азімых—да 8 проц.). Пры вільготным і цёплым надвор'і і пры расе трэба ўжываць больш моцны раствор.

Яшчэ лепшым сродкам супроць палявога бадзяка зьяўляецца раствор сернакіслага аміяка 10 або 15-процантнай моцнасьці. Пры апырскваньні гэтым растворам бадзяк зусім зьнішчаецца на працягу 2 дзён. На гектар патрабуецца каля 100 кілё сернакіслага аміяка.

**Пырнік.** Пырнік — вельмі шкоднае пустазельле, вельмі распаўсюджанае ў шмат якіх раёнах Савецкага саюзу. Барацьба з ім пры дапамозе глебаапрацоўваючых прылад патрабуе надзвычай вялікай затраты працы і часу. Таму ў шмат якіх калгасах, дзе наглядаецца засьмечаньне папаровых палёў пырніка, трэба паспрабаваць замежныя спосабы барацьбы з ім, а іменна пры дапамозе хэмічных сродкаў.

У Амэрыцы для барацьбы з пырнікам ужываюць так званы хлорат-натрыя. Асабліва вялікую працу ў гэтай галіне правяла дасьледчая станцыя Заходняй Віргініі (Амэрыка).

Станцыя знайшла, што найлепшай моцнасьцю раствора хлората натрыя зьяўляецца 10 проц. На гектар патрэбна прыкладна 280 літраў раствору. Найлепшыя вынікі атрымліваюцца пры двухкратным апырскваньні папаравага поля, заражонага пырнікам. Паміж першым і другім апырскваньнем робяць перапынак на 2—3 месяцы.

Станцыя таксама выявіла, што хлорат-натрыя лепш дзейнічае на сьвежыя, зялёныя расьліны, чым на падсохшыя.

# НОВАЕ Ў СІЛАСАВАНЬНІ

**Сіласаваньне сырой бульбы.** Папярэдняе запарваньне бульбы вельмі ўскладняе і робіць даражэй сіласаваньне. Спробы запарваць бульбу проста ў сілосней камеры аказаліся практычна няпрыемлімымі. Пры такім спосабе неабходны вельмі дарагія сілосныя прылады, якія яшчэ да таго хутка зношваюцца ад сільнага нарэза сьценак. Няроўнасьць нагрэва сіласуемай масы часта вядзе да значнага псаваньня сілоса.

Сучасныя бульбяныя машыны, ужываемыя на крухмальных заводах, дазваляюць у вельмі кароткі тэрмін прапускаць вялікія масы бульбы.

Для сіласаваньня цёртай сырой бульбы (Германскі лябараторны вопыт) вялікае значэньне мае насычанасьць цукрам яго клубняў. Пры больш значнай насычанасьці цукрам клубняў працэсы квашаньня адбываюцца жутчэй і энэргічней. Больш насычаная цукрам бульба дае больш соку, менш пены і г. д. Але дадатак да менш насычанай цукрам бульбы 2 проц. малясы, відавочна, дапамагае добраму працягу працэсу.

Фактарам, ускладняючым сіласаваньне сырой цёртай бульбы, зьяўляецца значная колькасьць пены сіласуемай масы. Аднак яе можна паслабіць, дапамагаючы малочнакваснаму бражэньню дадаткам мялесы і малочнакіслых бактэрый.

Для паглынаньня сока, які ствараецца ў значнай колькасьці, найбольш падыходзячым матар'ялам зьяўляецца, відавочна, торф. Яго трэба дадаваць да сіласуемай масы ў колькасьці 2, 5—3,0 проц., у залежнасьці ад насычанасьці цукрам бульбы. Часткова торф можа быць заменен сечкай (на дне сілоса).

Для пакрыцьця бульбянога сілоса зусім прыгодным матар'ялам зьяўляецца торф. Карысна дадаваць да яго раствор мялесы і ўносіць малочнакіслыя бактэрыі. Пры дастатковай насычанасьці бульбы цукрам і для ўнясеньня малочнакіслых бактэрый у верхні пласт сіласуемай масы, апошні можа сам служыць натуральным пакрыцьцем і дазваляе абыходзіцца бяз торфа. Ёсьць другі лябараторны вопыт, праведзены тым-жа германскім інстытутам. На гэты раз рабілі спробу сіласаваць цэльныя сырыя бульбіны ў пюрэ з даўленай запаранай бульбы ў прапорцыі 1:1; пры арганізацыі гэтага вопыта выходзілі з меркаваньня, што пры сіласаваньні вялікіх мас такі спосаб дазваляе ў два разы скараціць час і выдаткі па запарваньні бульбы. Вопыт даў станоўчы вынік.

Сырая бульба, пры дастатковай насычанасьці цукрам, кансэрвавалася ў „пюрэ" з запаранай бульбы так добра, што (праз 4 месяцы) яго можна было ўжываць нават для стала. Бактэрыялёгічны аналіз пацьвердзіў, што малочнакіслае бражэньне, якое адбывалася ў „пюрэ", падаўляе і зьнішчае шкодную мікраарганічную флёру на сырых бульбінах.

# Сьлед



*(Урывак з апавяданьня)*

*Малюнкі мастака Сокалава.*

I

Шпарка крочаць коні. Стараюцца ўцячы ад нясупыннага гуду мух і аваднёў, што роем носяцца ў іх над хрыбтамі.

Гэта надта перашкаджае Сымону аддавацца думам. Ён тужыць лейцы, пацішае ход коняй, часам на завароце ў канцы гоняй, зусім спыняецца і, тады міжвольна вырываецца з грудзей Сымона:

— Пруць, што і сыйсьці нельга.

І гэта ня толькі цяпер от так, калі сонца пячэ як лучынка і цяжка сыйсьці за плугам. Сымон вельмі часта прыпыняўся з самай раніцы, як толькі выехаў араць папар. Сёньня безахвотна працаваў ён. Думы перашкаджалі.

Усе гэтыя дні Сымона трывожыць адно і тое-ж самае пытаньне: як гэта магло здарыцца, што зьнялі з фэрмы і паставілі на палявыя работы? Яму хаця і лягчэй працаваць у полі, чым на фэрме каля сьвіней, але з такой зьменай ня можа аніяк ён згадзіцца. Камсамол вылучыў... Быў на курсах сьвінаводаў... Вывучаў тэхніку сьвінагадоўлі... Потым старшым сьвінаром-брыгадзірам прызначылі... Ударнік! Атрымаў прэмію за працу на фэрме—і раптам зьнялі, паставілі на другую работу. Зьнялі ды яшчэ і шкодніцтва...

Ох, як балюча рэжа Сымонава сэрца гэтае слова! Слова „шкоднік“, якім абзываюць зараз Сымона, прыдушыла яго, кінула ў бяздоньне. І каб ня сьвіньні тыя, што так раптоўна здохлі, ён і зараз-бы ня меў на сабе такой чорнай плямы, і зараз-бы працаваў на фэрме.

Сымон тужыў лейцы ідучы разораю за плугам і ганяў узад і ўперад цяжкія, балючыя думкі.

„Мабыць і праўду кажа вэтарынар?.. Мо' і атруціў хто?..“

Думаў па-рознаму, задаваўся пытаньнем, стараўся знайсьці на яго адказ. Але чым больш ён аддаваўся думам, тым больш неразгаданым для яго зьяўлялася тое, што здарылася.

„Але хто-ж гэта мог зрабіць?! Ніхто-ж, здаецца з пастаронніх ніколі не заходзіў у сьвінарнік. Сьвінары—свае людзі—не маглі пусьціцца на злачынства, на падрыў калгаснай вытворчасьці...“

Горш усяго крыўдна Сымону, што гэтую страту на фэрме лічаць за яго віну, нібы-та, сувязі з кулацтвам. Сымон ніколі не спадзяваўся, што палічыць яго хто-небудзь агентам клясавага ворага. Гэтак рашуча ён змагаўся за ачыстку калгасу ад кулакоў! Першым узьняў пытаньне аб аздараўленьні калгасу. Выкінутыя з калгасу і зараз гадзінамі сыкоюць, помсьцяць Сымону...

А ўсё Матруна...

Праз яе лягла такая пляма на чалавека. Яна вінавата... Вяжыцца да Сымона, першая з моладзі прыходзіць у Казлоўку, як толькі ўчуіць гукі гармоніка, ласкава гаворку заводзіць, жартуе з Сымонам. А людзі ўсё гэта бачуць, а людзі... хто ведае, што думаюць наконт яго знаёмства з дачкой кулака.

— Эх, сволач, атрута жыцьця майго.

Падагнаўся з плугам к дарозе і зноў спыніў коняй.

— Чаму не адпрагаеш?—абарваў Сымонавы думкі Піліп—старшыня калгасу.

Сымон узьняў залітыя потам вочы, правеў рукавом кашулі па мокрым ілбу.

— Адпрагай, кажу. Бачыш коні ня могуць адбіцца ад аваднёў,—зноў крыкнуў Піліп, падыходзячы бліжэй да Сымона.

— Хачу скончыць вось гэтыя гоні,—паказаў Сымон на неўзараты кавалак папару.

Піліп падыйшоў да Сымона і застанавіўся. Сымон запытаў:

— Дзе гэта ты ходзіш?

— Прайшоўся каля ракі, паглядзеў сенажаці, ды, думаю сабе, зайдуся ў папар... Якраз і дзела ёсьць другое... Трава, брат, парасла каля ракі па пояс, касіць ужо можна.

Кінуў гаспадарчым вокам на сьвежую ральлю і да Сымона:

— А ты, брат, узьвярнуў вонь колькі...

— Жартуеш?..

— Не, сапраўды. Астатнія ня больш за цябе ўзаралі, дарма што ты малады, так сказаць, палявы рабочы.

— Хіба гэта столькі можна было ўзараць?

— Ну дык чаму-ж не ўзараў больш? Коні-ж, бачу я, ня надта ўжо змарыліся.

Сымон махнуў рукою і цяжка ўздыхнуў.

— Ведаеш, таварыш старшыня, рукі не падымаюцца да работы. Сам бачыў, як я працаваў на сьвінарніку. Шчыра працаваў...

— Гэта праўда.

— ... а тут і лягчэй мне, але...

У Сымона скамячылася штосьці балючае ў горлу, на вачох прыкметна заблішчэлі сьлёзы.

— Трэба-ж такі, такая бяда!

— Што-ж, з-за гэтага ня варта апускаць рук, бо гэтым не дапаможаш. Яно, канешне, страта вялікая. Шкода ўсім калгасьнікам, не аднаму табе.

— Але чаму-ж такая пляма на мяне? Крыўдна...

— Ну, што-ж... факт застаецца фактам, што сьвіньні атручаны і тое, што ты маеш сувязь з кулаком, якога мы выкінулі з калгасу. І дзіва неяк, сам-жа ты гэтак актыўна тады змагаўся за ачыстку калгасу, сам прапанаваў выключыць Язэпа і зараз—трымаеш з ім сувязь. От тут і разьбярыся як хочаш.

Памаўчаў крыху, нібы чакаў учуць ад Сымона што-небудзь, але той стаяў апусьціўшы вочы ў зямлю, маўчаў. Тады Піліп гаварыў далей:

— Я-ж кажу, тут, брат, справа сур'ёзная...

Расьсьледуюць, разьбяруцца і, калі ты ня маеш ніякага дачыненьня да гэтай справы, нявінаваты, дык і плямы ніякай ня будзе на цябе. От, як...

— Ну якую я маю з ім сувязь, га?—пакрыўджаным голасам запытаў Сымон.

— Мусіць-жа маіш, людзі-ж ведаюць раз гавораць. Ды і твой-жа сябра, Васіль Юзючонак гэта самае гаворыць. Яму-ж можна ўжо паверыць—працаваў разам з табой...

Сымон нічога не адказаў на гэтыя словы, пачаў рыхтавацца араць. Піліп застанавіў яго.

— Там якраз сьледчы прыехаў, дапытвае баб і мужчын. Ты от адпрагай, давай мне коняй я завяду іх у хмызьняк, а сам ідзі хутчэй, каб не затрымліваць чалавека. Ідзі адразу ў чытальню, ён там дапытвае ўсіх.

Сымон моўчкі пачаў адпрагаць коняй.

II

Сёньня, у Пуцікаўскім чырвоным кутку адбыўся ўнечарговы сход камсамольскай ячэйкі. Бурны быў сход. Хлопцы „прэлі“ цэлы абвячорак, захвацілі нават і паўначы. Ды і як не аддаць столькі часу для такога пытаньня, як выключэньне з камсамолу. Трэба-ж было выслухаць кожнага камсамольца, як сьлед абмеркаваць, раней чым вынасіць такую суровую пастанову адносна лепшага свайго камсамольца, якога ўсяго толькі тыдзень таму назад пастанавілі былі пасылаць на вучобу. Ды і ня толькі на вучобу, рэкамендавалі нават у кандыдаты КП(б)Б. І камсамольская ячэйка не памылілася тады ў свзіх рашэньнях. Сымон, па сваёй працы ў ячэйцы і ў калгасе, мог быць прыняты ў партыю.

Але... шкодніцтва. Шкодніцтва на сьвінагадоўчай фэрме перакрыла ўсе заслугі Сымона і зараз ён ня можа быць ня толькі ў шэрагах партыі, але і ў камсамоле.

Усе трое вышлі за дзьверы.

Зараз-жа з-за полагу вышла Матруна. Усхвалёваная, а на заплаканых вачох сьлёзы. Крадучыся падышла пад самыя дзьверы. Прыслухалася да глухой гаворкі, што даносілася з сяней.

— Н-на мушку, ды і ў раку...

— Так, так... Адплыве—і канцы ў ваду. Падумаюць, што сам з непрыемнасьці...

Матруна ўздрыгнула ўсім целам. У грудзёх сьціснула страшэнная боль.

— Г-гых, душагубы... Перасьцерагчы трэба Сымона,—выцісьнула яна скрозь сьлёзы.

Хуценька ўскінула на плечы бравэрку і выбегла з хаты.

---

Юзюковы думкі абарваў начальнік міліцыі.

— Парчынскі Юзюк!

Юзюк лыпнуў вачыма і павольна, нясьмелымі крокамі пралез на самы перад. Ён ведаў ужо навошта паклікаў яго начальнік міліцыі (бачыў-жа, што рабілі суседзі), але стаў супроць сьледчага начальства, бяссэнсна прабіваючы мутнымі вачыма наточаныя кратом чорныя кучкі зямлі.

— Не затрымлівайце, таварыш. Станавіцеся правай нагою... — прапанаваў сьледчы.

І стаў Юзюк нагою на падварушаную чорную зямлю тую, што натачыў крот, што зараз балюча так точыць яго сэрца. Зямля халодная і вільготная. Ды такая-ж яна здэцца ліпучая, што Юзюк ледзь адарваў ад яе нагу сваю. Так цяжка падымаў ён правую нагу, што быццам павалок за ёю некалькі пудоў вільготнай гэтай зямлі.

Пільна сьледчы ўгледзіўся ў Юзюкаў сьлед. Спачатку аглядаў яго седзючы. Потым узьняўся і зайшоў з другога боку.

— Гм... Нешта ёсьць падобнае,—прамовіў ён у паўголаса.

Толькі што адціснуты Юзюком сьлед вельмі падобен быў на той, да якога дамяралі.

У Юзюка шырокая, куксаватая, з кароткімі пальцамі нага і абудвы сьляды гэткія. У Юзюка вялікі палец крыху крывы, адтапырыўся, а пазногаць на ім даўжэзны, аж загнуўся пад самы іспод (гэта ён наўмысьля не абразае ніколі на нагах пазногці, каб не балела, калі ўдарыць увошта нагою). Усе гэтыя рысы вельмі выразна адціснуліся ў абудвых сьлядох. Сьледчы аж глянуў на Юзюковы ногі. Глянуў і заключыў сам сабе:

— Яго!

І потым да начальніка міліцыі.

— Паглядзіце вы.

Начальнік міліцыі і агент крымвышука ўпялі вочы ў воцьціскі нагі.

Доўга ўглядаліся ўсе трое. Гаварылі між сабою ціха. Урэшце начальнік міліцыі запытаў:

— Юзюк Парчынскі, хто будзе?

— Я,—дрыжачым, прыдушаным голасам адказаў Юзюк.

— Паедзеце з намі... А вы, грамадзяне, — зьвярнуўся ён да астатніх сялян,—можаце расхадзіцца.

Сяляне шумелі разыходзячыся. Угледаліся ў Юзюка, як на дзіва якое, як на чалавека, якога першы раз толькі ўбачылі зараз. А ён стаяў, апусьціўшы галаву і нешта думаў.

*Ліпень, 1932 г.*

# На пераможных пазыцыях

## Адкрыўся дзяржаўны польскі тэатр у Менску

Рабочая кляса і працоўныя масы БССР пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі на аснове разгорнутага сацыялістычнага наступу па ўсім фронце, нязухільнага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі, у рашучай барацьбе з вялікадзяржаўным шавінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе і нацдэмакратызмам — дамаглася сусьветна-гістарычных посьпехаў у справе культурнага будаўніцтва—росквіту, нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьмесьце, культуры.

У мінулым Беларусь была самай адсталай калёніяй былой царскай Расіі як у эканамічных, так і ў культурных адносінах,

У 1898 годзе з агульнага ліку насельніцтва было 18,7 проц. пісьменных, якія прыходзіліся на больш заможныя слаі вёскі і дваранства.

На сёнешні дзень Беларусь аб'яўлена краінай суцэльнай пісьменнасьці. Урад і партыя стварылі ўсе неабходныя ўмовы для навучаньня ўсіх працоўных мас БССР.

Шэраг гарадоў БССР як Гомель, Менск, Віцебск, Мазыр, Слуцак і інш. рапартуюць партыі і ўраду аб заканчэньні ў асноўным ліквідацыі няпісьменнасьці сярод гарадзкога насельніцтва.

Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў-серадняков і бедняков па радзе раёнаў, як Рагачоўскі, Лагойскі, Лёзьнянскі, Асіпавіцкі, Талачынскі, Дубровенскі ў асноўным завяршана.

Расьце і ўзмацняецца калектыўная гаспадарка. Зараз на калгасных палёх савецкай Беларусі працуе 57 МТС з агульнай колькасьцю 1 тыс. 500 трактараў, якія крышаць рэшткі меж, па якіх спрадвеку кусьціўся палын і пырнік, засьмечваючы вузенькія пожні бядняцкіх пасеваў.

Хуткімі тэмпамі расьце прамысловасьць. Дзесяткі новых заводаў і фабрык уступілі ў строй, сотні будуюцца і будуць скончаны ў канцы першай пяцігодкі. Гэтыя факты гавораць аб тым, што БССР пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі шпарка ідзе па лініі росту, як у галіне эканамічна-палітычнага жыцьця, так і ў ажыцьцяўленьні нацыянальнай палітыкі,—стварэньня нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьмесьце, культуры.

Зусім адваротнае становішча мы назіраем у Заходняй Беларусі. Прамысловасьць замерла. Ня толькі ня будуюцца новыя фабрыкі і заводы, але нават



У былым будынку касьцёлу—польскі тэатр.

не адбудоўваюцца разбураныя ў часе вайны, як гарбарні ў Смаргонях, мэталюргічная прамысловасьць у Новай Вілейцы і шэраг іншых. З кожным днём памяншаецца лічба рабочых, з кожным днём расьце лік беспрацоўных, нэндза і бядота ў рабочых кварталах.

Заработная плата рабочых у параўнаньні з папярэднімі гадамі зьнізілася ў два і больш разы. Становішча сельскае гаспадаркі ня лепшае. У зьвязку з непамернымі падаткамі і рознымі карамі, нізкімі цэнамі на сельскагаспадарчыя прадукты і значна павышанымі цэнамі на прадметы прамысловасьці, працоўнае сялянства нашчэнт абяднела і зусім згубіла пакупную здольнасьць.

Працоўнае сялянства ў сувязі з калёнізатарскай палітыкай пры дапамозе розных законаў пазбаўляецца з кожным годам тых мізэрных вучасткаў зямлі, з якіх ледзьве ў прогаладзь карміліся іхнія сем'і.

Нястача зямлі, зьніжэньне цэн на сельскагаспадарчыя прадукты, адсутнасьць заробку ў горадзе,—



На мітынгу паліт-масоўкі ў дзень 12-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў.

усё гэта паглыбляе нядолю і нэндзу шырокіх працоўных мас сялянства.

Вось чым характарызуецца становішча Заходняй Беларусі і Польшчы.

БССР, як ударная адзінка савецкага саюзу, пасьпяхова заканчвае першую пяцігодку, няўхільна ажыцьцяўляе ленінскую нацыянальную палітыку ў стварэньні культур нацменшасьцяй—нацыянальнай па сваёй форме і сацыялістычнай па зьмесьце.

У дзень 12 гадавіны вызваленьня БССР ад белапалякаў пралетарыят БССР сьвяткуе яшчэ адну перамогу на культурным фронце—адкрыцьцё дзяржаўнага польскага тэатру ў Менску. Новы польскі тэатр імя 11 ліпеня адчынены па Савецкай вуліцы ў перабудаваным памяшканьні былога польскага касьцёлу.

Касьцёл сотні гадоў пашыраў забабоны і цемру сярод працоўнага польскага насельніцтва, імкнучыся трымаць яго ў паслухмянасьці і пакоры перад памешчыкамі і капіталістамі.

Пераможнае будаўніцтва сацыялізму нанесла зьнішчальны ўдар рэлігійным забабонам і адкрыла масам вочы пра контррэвалюцыйную ролю рэлігіі.

У 1930 годзе па ініцыятыве рабочых-палякаў г. Менску пачалася масавая кампанія за адабраньне касьцёльнага будынку, асяродку забабонаў і цемры, пад культурна-асьветную ўстанову. Каля 5 тысяч подпісаў працоўных палякаў гораду Менску патрабавалі ад Гарсавету: ператварыць касьцёл у асяродак польскай сацыялістычнай культуры.

У верасьні 1931 г. Менскі гарадзкі савет пасьля новых масавых патрабаваньняў працоўных палякаў, выконваючы волю шырокіх мас польскага працоўнага насельніцтва Менску і яго ваколіц, пастанавіў: задаволіць просьбу працоўных палякаў і аддаць будынак касьцёлу пад культурную ўстанову.

Адчыненьне польскага дзяржаўнага тэатру ў Менску—гэта яшчэ адна вялізарнейшая перамога па фронце стварэньня нацыянальнай культуры ў Савецкай Беларусі.

Г. К.



Адказныя рэдактары: С. Міцькоў. М. Гельфанд.

Заказ № 1706. 2.100 экз. Уп. Галоўлітбелу № А—2.

Друкарня імя Сталіна.


ШЛЯХІ
КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ
1931
ШЛЯХІ
КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ
шляхі
калектывізацыі
КАЛЕКТЫВ
На 12 мес.—24 нумары 3 р.
„ 6 „ —12 „ 1 р. 50 к.
„ 3 „ — 6 „ — 75 к.
„ 1 „ — 2 „ — 25 к.
ПАДПІСКУ ЗДАВАЙЦЕ НА
ПОШТУ АЛЬБО ЛІСТАНОСЦУ.